# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

Год II. | Вільня, Панядзелак 6-га лістапада 1922 г. | № 31 (56).

Жыхары **места Вільні**, а таксама **паветаў Віленскага, Троцкага, Ашмянскага, Вялейскага, Сьвянцянскага, Дунілавіцкага, Браслаўскага і Дзісенскага**, якія ўваходзяць у склад **Віленскага ваяводзтва**, павінны на выбарах **у Сэнат**, у нядзелю **12 лістапада**, падаваць свой голас

# № 24.

**Жыхары паветаў Лідзкага і Воложынскага, а также ваяводзтваў Навагрудзкага, Беластоцкага і Палескага павінны галасаваць за № 16.**

# На выбары у Сэнат.

Выбары ў **Сойм** ужо адбыліся. Мы йшчэ ня ведаем вынікаў галасаваньня, ня ведаем, ці яно ўсюды адбылося свабодна, без перашкод, ці, наадварот, і тут адміністрацыя нарушала свабоду выбараў так, як яна нарушала яе ў часе передвыбарнай агітацыі. Але ведаем адно: усюды, дзе дайшла вестка аб сьпіску № 16, усюды, дзе народ здалеў вызваліцца ад панскага баламуцтва і не ўбаяўся пагрозаў праступных агентаў адміністрацыі, — усюды людзі дружнымі радамі ішлі за № 16.

У нядзелю, 12 лістапада, адбудуцца выбары ў **Сэнат.** Гэтым разам права падаваць голас маюць далёка ня ўсе тыя, хто выбіраў у Сойм: у Сэнат галасуюць адно тыя з іх, якім мінула 30 гадоў жыцьця. Такім парадкам, наша моладзь, якая выяўляла найбольш дзейнасьці ў часе выбараў у Сойм, ад выбараў у Сэнат зусім адсунена.

Закон, які гэта ўстанавіў, кіраваўся тэй думкай, што Сэнат ёсьць установа, на долю каторае выпадае быць як-бы тормазам, выпадае трымліваць лішне гарачыя і сьмелыя крокі Сойму. І вось законадаўцы думалі, што недапушчэньнем да галасаваньня моладзі яны даб'юцца таго, каб у Сэнаце сядзелі людзі старэйшыя, разважныя, ня пры ткія да навін і зьмен у дзяржаўным жыцьці.

12 лістапада будуць у нас галасаваць пераважна бацькі і маткі сямей. Аднак, мы пераканаты, што думкі польскіх законадаўцаў адносна іх не апраўдаюцца, Мы пераканаты, што нашы бацькі і маткі ня горш за нашу моладзь адчуваюць увесь цяжар нашага бязпраўнага палажэньня, адчуваюць агульную роспач і жах за будучыну, гледзючы, як да нашага краю напльываюць грамады чужынцаў і забіраюць тую зямлю, якую палівалі сваім потам і крывёй цэлыя пакаленьні беларускага народу і аб якой лятуцелі, як аб адзіным спосабе ратунку. Мы пераканаты, што не астануцца бязчыннымі ў часе выбараў ня толькі нашы бацькі і маткі але і старыкі—дзяды нашы, што ляжаць ужо на печы і, ўспамінаючы старыя прыгонныя часы, з страхам угля дающца на той новы прыгон, які нам заводзяць польскія паны-абшарнікі.

**За каго галасаваць?** Весь тое

